# ПАГОНЯ

Адрэс рэдакцыі і канторы:
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень ад 8—3 гадз.

ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Падпіска каштуе:
на 10 № № ўпярод — 10 зал.
„ 5 „ „ — 5 „
Кошт асобнага № — 1 „

Рукапісы
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па погляду Рэдакцыі.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залаты на опошняй страницы незалежна ад зьместу.

№ 2. | Коўна, Чацьверг, 5 жніуня 1920 году. | Год І-шы.

## Да чытачоу.

Рэдакцыя просіць ўсіх чытачоў прысылаць карэспадэнцыі, вершы, літэратурные апрацаваньня, палітычныя стацьці і ўселякі матэріал, які можэ пашырыць рамкі газэты.

**Рэдакцыя.**

## П р ы з ы у.

Польская акупацыйная Улада, якая чуць не праз 2 гады нішчыла наш край, дзяржала яго у зялезным кулаку, цяпер адыходзіць. Не дала яна нам, як мае быць, прыгатавацца да гэтае часіны, не дала магчымасьці з'арганізаваць нашы сілы. Бяромся да працы ў часох поўнага зьніштажэньня краю, мусім завясьці ў нашым краю лад і парадак, а да гэтай мэты мы дойдзем тады, калі мы будзем з'арганізаваны. Спадзяемся, што край наш дасьць нам працоўнікоў для адбудовы Гаспадарства і дзеля таго просімо ўсе беларускіе арганізацыі, таварыства, зьвязкі, хаўрусы, школы, ахронкі і г. д. зарэгістравацца ў Міністэрстві, а таксама, ў мэтах арганізацыі ўсей беларускай інтэлігэнцыі для выкарыстаньня яе ва ўсіх галінах дзяржаўнага будаўніцтва і краевай гаспадаркі, просімо таксама зарэгістрыраваць сябе (можна пісьменна) ў Міністэрстві.

Д. СЕМАШКО.

Міністэр Беларускіх Спраў.

Коўна 4 Жніўня. 1920 г.

◆◆◆◆◆◆

Коўна 4 жніўня.

Да будаўніцтва Літоўскага Гаспадарства беларусы першыя, як праўдзівые сыны гэтай зямлі, прыступілі да супольнай працы, ўжо за імі пасьледавалі жыды, тады як іншые націанальныя меншасьці, на неаднаразовы прызыў літоўцаў, асталіся бэз ніякай увагі, а навэт, як палякі, занялі варожае становішчэ, і ўвесь час чыгалі на маладую Літоўскую Рэспубліку (неўдаўшыся загавар польскай арганізацыі П. О. В; бунт 22-го Лютага; загавар патаемнай арганізацыі „Наднеманскіх Стрэльцоў.“) Ня гледзючы на тое, што беларусы разам з літоўцамі будуюць сабе супольную бацькоўшчыну, палякі як-бы аб гэтым не званілі, і ўзноў хацяць зрабіць тое, каб Літва не набралася ў дастатачнай мерэ сіл, каб магчы адбараніцца ад прылучэньня літоўскіх зямель да Польшчы. Яны стараюцца ўжо паровьніць беларусоў з літоўцамі, ведаючы, што калі ня будзе згоды паміж селеньнямі, то й само Гаспадарства будзе слаба. Тады яны выпекаюць два хлебы: адзін хлеб —гэта тое, што Польшча захопіць Літву, а другі хлеб—гэта, што калі ня будзе згоды памеж беларусамі і літоўцамі, то польскіе паны ў Літве будуць дужэйшы і тады абаронюць прад зямельнай рэформай польскіх вялікауласьнікаў і польскія маентнасьці. У Літве народу польскага німа і польскім панам ненакага апірацца, каб саздаць патрэбную палякам апазыцыю проціў прэдстаячай зямельнай рэформы, якую хочэ правясці Установчы Сойм, выбраны па воле народу. Вось дзеля чаго польская фракцыя з 3-х асоб у Устаноўчым Сойме робіць штучную апазыцыю і выступае ў сваей дэкларацыі ады ймя „польскага і белорускага народаў“. Пытаемся тут, хто даў палякам правы выступаць ады ймя беларусоў? Мы ня просім вашай абароны. Проч акрываўленыя рукі ад беларускага кажуха! Беларус не забудзе вам ніколі пугі крывавага Даўбор — Мусьніцкага, ні разгрому Менска, ні закрыцьця школ, ні растрэлу нявінных ахвяр, ні слёзаў, пралітых беларусамі у турмах Менска, Вільні, Городні, Варшавы і Кракава; ён таксама не забудзе поту, слезаў і крыві, якімі паліваў зямлю польскіх ўласьнікаў.

Ведайце на заўсёды, што ніякія вашы інтрыгі, як і ўсе нешчасьця ня могуць разарваць і не разарвуць Літоўска - Беларускага Хаўрусу, які акроплен кроўю на палёх Грынвальду пры нашым слаўным Вітаўце, як і у нашыя дні на літоўска-польскай дэмаркацыйнай ліньні.

◆◆◆◆◆◆

## Дэкларацыя
### Старшыні міністроу Д-ра ГРЫНЮСЯ,

прачытаная на пасядзеньню Устанаўчага Сойму 23-го чэрвеня.

ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ ЎСТАНОЎЧАГА СОЙМУ.

Дзержава Літоўская перэжывае ўжо трэці год сваей незалежнасьці. Праз гэты, так скажэм, пэрыод самаабразаваньня многа пераўжыта і даканана. Пасьля цяжкай барацьбы, здабыта намі 60.000 кв. клм. тэрыторыі, на якой, па атрыманым падчас выбараў у Устаноўчы Сойм данным, жыве каля 2 мільенаў жыхароў і атрымана магчымасьць скамплікаваць поўны дзержаўны апарат з многімі рожнаго роду інстытуцыямі; з'арганізавана сотні дробных ячэйкаў самоупраўленьня, множэства апіраючыхся на засадзе каапэратыўнай закладоў прамысловых і гандлевых. Ніколі не было ў Літве столькі школ пачаткавых і вышэйшага тыпу; заложаны вышэйшыя курсы з некалькімі дзесяткамі лектароў і сотнямі слухачоў. Адбудова Літвы, ў часьці энэргіей сваіх жыхароў, а ў часьці дзякуючы дапамозе выходцаў-літвіноў у Амэрыцэ, памысна йдзе упярод; достатачные, як у пройшлым, так і гэтым годзе адсеў палеў і ураджай выказываюць, што край хутка зблізкаецца да нармальнага жыцьця. Вялікае заінтэрэсаваньне выбарамі у Устаноўчы Сойм (да 90°/₀ галасуючых выбарцаў) дае надзею асягненьня трывалага парадку. Гэта гварантуе, у кожным будзь разе, шчасьлівае разьвіцьце Рэспублікі. Раўнуючы аб'ектыўна што было перад вайной і што зроблена праз гэтыя два гады незалежнасьці,—належэ прызнаць найвялікшае рэзультаты працы. Але ўсе-ж у нас ня ўсё добра, многа чаго павінна быць папраўлена, многа трэба стварыць новага. Стане ўсе бардзей ясным пры разглядзе нашых заданьняў у ўсеабнімаючых сфэрах упраўленьня.

У сфэрэ закардоннай палітыкі Урад, найперш за ўсё, будзе дабівацца прызнаньня нашай Джержавы дэ-юрэ, каб Літва потым магла увайсьці як раўнаправны член у радню дзержаў.

(Працяг будзе).

◆◆◆◆◆◆

## Нацыянальныя міністэрства у Літоускім Урадзе.

Нацыянальная меншасьць ў Літве мае свае прэдстаўніцтва у Літоўскім Урадзе, якое абараняе патрэбы свайго народу. Палякі да гэтага часу не хацелі супольнай працы з літвінамі і дзеля таго не маюць у Літоўскім Урадзе свайго прэдстаўніка. Істнуюць толькі міністэрства беларускіх і жыдоўскіх спраў. Міністэрства Беларускіх Спраў складаецца з Міністра Д. Семашко, Начальніка Канцэлярыі Х. Шэпфа, Райцы па цывільным справам П. Чэркаса, сэкрэтара, бугальтэра, 2 чыноўнікаў дзеля даручэньня 1 разраду, 1 чыноўніка 2 разраду, тлумача, канцэлярыста 1 разраду, 2 канцэлярыстаў 2 разраду і машыністкі.

Міністэрства Жыдоўскіх Спраў складаецца з Міністра Д-ра Соловейчыка, Начальніка Канцэлярыі, Райцы па цывільным справам, Інспэктара школ, Інспэктара эканамічных арганізацыяў, Кіраўніка аддзелу гмін, Кіраўніка аддзелу прэссы, Рэвізора гмін, 2 тлумачоў і г. д. Акрамя гэтага Міністэрства Прасьветы мае так сама Інспэктара школ жыдоўскіх.

◆◆◆◆◆◆

## Беларускае Міністэрства, а Беларуская Рота.

Новы Міністэр Беларускіх Спраў, прыступіўшы да спаўненьня сваіх абавязкаў, ў першы чарод зьвярнуўся да Камандзера Беларускай Роты з гэтакім лістам:

АРМІЯ ЛІТВЫ

Камандзеру Беларускай Роты.

Гэтым паведамляю Вас, што, згодна з рэшэньнем Старшыні Устаноўчага Сойму і прапазыцыяй Старшыні Міністроў д-ра Грынюся з 19 чэрвеня 1920 г. я ўступіў ў спаўненьне абавязкаў Міністра Беларускіх Спраў ў Літве.

Пасылаючы Вам і ўсей Беларускай Роце мой гарачы прывет, лічу, што ў маей з Вамі працы над адбудовай нашай супольнай з літоўскім народам Бацькаўшчыны, мы духоўна аб'еднаемся — Вы на фронці, баронючы сваей кроўю меж, а я тутака, баронючы спраў, як нашай дарагой Бацькоушчыны, так і нашых спэцыяльных беларускіх спраў.

Нехай жыве Літва! Нехай жыве Устаноўчы Сойм! Нехай жыве Беларуская Рота!

Міністэр Беларускіх Спраў Д. СЕМАШКО.

У адказ на гэты ліст пасьледавала такое данясеньня:

Паважаны Пане Міністру.

Выбачайце, што вайсковы адказывае Вам на Ваша вітаньне на гэткай паперцы і пішучцы алоўкам, бо праз гадзінку мы ўсе йдзем напярод. Ворагі ад нас ужо ў 10 вярстох і яшчэ няведама, якое будзе з імі у нас спатканьне.

Дужа, дужа падняло дух нашых жаўнерау Ваша прывітаньне і мы цьверда верым ў тое, што мы дабьемся свайго. З гарачым прыветам Вам і ўсім сапрацоўнікам ад йmя беларусоў вайсковых.

А. РУЖАНЦАУ, Маёр.

З далейшых данясеньняў Камандзера беларускай роты даведываемся, што, прасуваючыся з боем ўпярод і займаючы ад палякоў родныя мейсцы, рота ўсюды спатыкае надта радасны прыём звольненых ад варожаго цягла жыхароў. Рота здарова і памеж ей і другімі часткамі паўка істнуюць самыя цёплыя адносіны і поўная згода.

**СПАУНЯЮЧЫ АБАВЯЗКІ ПРЭЗЫДЭНТА РЭСПУБЛІКІ І СТАРШЫНЯ УСТАНОУЧАГА СОЙМУ АБВЕШЧАЕ ПРЫНЯТАЕ СОЙМАМ ГЭТАКАЕ ПАСТАНАУЛЕНЬНЕ:**

# Пастанауленьне аб увядзеньню ваеннага палажэньня.

На падставе ўвагі 1 да § 16 Часовай Канстытуцыі абвешчаецца ўся Літва на Ваенным Палажэньню.

З дня апублікаваньня на мейсцах гэтага пастанаўленьня, гваранты канстытуцыі прыастаноўлены і уводзіцца кара сьмяротнай казьню.

Пры ўвядзеньню Ваеннага Палажэньня прыказываецца цьвёрда прытрымлівацца Асобных Пастанаўленьняў Абароны Краю.

**А. Стульгінскі**
Спаўняючы абавязкі Прэзыдента Рэспублікі
Старшыня Устаноўчага Сойму.

**Д-р. Грынюс**
Старшыня Міністроў.

Коўна 23-га
ліпеня 1920 г.

◆◆◆◆◆◆

## Арэшт Антона Луцкевіча.

Вядомы беларускі дзеяч, быўшы Старшыня Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антон Луцкевіч, які за пададзены мэмаріал Версальскай Мірнай Канфэрэнцыі ад імені гэтай рэспублікі мусіў пайсьці у дымісыю, цяпер сядзіць арэштаваны бальшэвікамі у Вільні, дзе ён астаўся, чэкаючы прыходу Літоўскай Ўлады.

◆◆◆◆◆◆

## Як распрауляліся палякі з Беларусамі.

(Бюлецень Беларускага Прэс-Бюро з 29-га чэрвеня 1920 г.)

Тэрыторыя Беларусі пад польскай акупацыей перажывае ніколі нячутны тэрор:

1. Усе крэсьцьяне—беларусы пагалоўна абвінавачываюцца ў бальшэвізьме. Партыйныя дзеячы арэштовываюцца. Арэштаваны лідэр партыі с.—р. Томаш Грыб з жонкай.
2. У вёсцэ Харэвічы, Дукарскай воласьці, растрэлян с.—р. Лебедзеў.
3. У вёсцэ Горово (Менскай губ.) легіанэры разьбілі з армат 5 хат, а ўсіх жыхароў: старыкоў мужчын, дзяцей і кабет білі розгамі.
4. Вёска Корсікі (Менскага павету) спалена, а жыхары растрэляны.
5. У вёсцэ Летніца (Менскага павету) ўсіх жыхароў білі нагайкамі, а дваіх з іх растрэлялі без суда.
6. У вёсцэ Загоркі (Менскага пав.) трох чалавек саслалі на катаргу.
7. У вёсцэ Верэжа, Верэжскай воласьці (Менскай губ. Ігуменскага павету) ўсіх жыхароў білі нагайкамі, 2 человек забілі да сьмерці; 4 человек растрэлялі і ў тэй лічбе Андрэя Крывашока і Андрэя Каршуна.
8. У Хутарскай воласьці (Ігуменскага пав.) растрэляны бэз суда 6 человек жыхароў, 3 человека забіта да сьмерці.
9. У Слуцкім павеце растрэляны 36 человек і арэштованы 200 человек.
10. У сяле Паляны жыхара Д. Сікорскаго білі шомпаламі, яму было нанесена 220 удароў.
11. У сяле Дзедава (каля ст. Мікашэвічы), якое складаецца з 2.600 будынкаў, дзьве трэці жыхароў біты розгамі, ёсьць забітыя да сьмерці кабеты паважнага стану.
12. У сяле Ерэмічы (Новогрудскага павету, Менскай губ.) ўся моладзь да 26 гадоў была арэштавана.

◆◆◆◆◆◆

## Ваенна-палітычны агляд

**За тыдзень.**

На Паўночным фронце і на Пецярбургскім фронце ваеннае становішчэ бяз перамен. Прычынай перарыву руска-фінскіх мірных перэгавораў у Юрьеву была прэтэнзія фінаў на Печэнгу, а так-сама фінскія дамаганьня здаволеньня за зробленыя у Расеі фінскім падданым страты, ў ліку 2,5 міліардаў фінскіх папяровых марак.

Эстонска-бальшэвіцкія адносіны не так ужо карэктны, як яны павінны былі быць пасьля заключэньня міру. Недаўна бальшэвікі ў Ямбургу арэштавалі эстонскіх грамадзян, напраўляючыхся ў Расею са сваімі сямействамі і маентнасьцю. Спажыўнасць і грошы былі адабраны, а самі пасажыры трымаліся ў няволі. Эстонцы грозяць контрдаўленьнем і хочуць затрымаць у сваіх партах прыбыўшыя дзеля Расеі тавары.

Камуністычныя арганізацыі у Эстоніі падтрымлівалі патаемную сувязь з Гукоўскім—прэдстаўніком Савецкай Расеі ў Рэўлю. З прыцягнутых да суду 34 камуністаў 2 прысуджаны да сьмяротнай казьні, 11 у катаржныя работы. У сувязку з прыгаварамі сацыял-дэмакратычная фракцыя адазвала сваіх прэдстаўнікоў з Ураду. Там - ўвесь Габінэт падаў у дымісыю. Новы Ўрад было даручана ствbooks рыць трудавой партыі, якая выбрала старшыней прафэсара Піпа. Нязгоды паміж Эстоніей і Латвіей з-за Валку грязяць перайці у аружныя спатычкі памеж гэтымі дзьвюмя рэспублікамі.

На Латвійска-бальшэвіцкім фронце за працекшы час мелі спатычкі конных атрадаў чырвонай арміі з латышскімі войскамі у мястэчка Скрудэліно, у 15 вярстох ад Дзьвінску. Гэтыя спатычкі мелі характэр толькі разьведкі. Перэгаворы аб міру памеж Латвіяй і Савецкай Расеяй у значнай часьціне ўжо закончаны. Прычынай перэнясеньня мірных перэгавораў з Масквы ў Рыгу зьяўляецца тоя, што латвійскіе камуністы ў Маскве у значным стопеню тармазілі іх вядзеньне. У главе Савецкай мірнай дэлегацыі стаіць Іоффе. Пасядзэння мірнай канфэрэнцыі адбываюцца у памешканьні міністерства замежных спраў.

Старшыней Латвійскай дэлегацыі на канфэрэнцыі балтыцкіх гаспадарств зяўляецца міністэр-прэзыдэнт Ульманіс, членамі: міністэр замежных спраў Мейеровіч, сэнатар Замуэль, палкоўнік Радзінь, Рэйніс і Каспарсон. Канфэрэнцыя займецца абрадаваньнем пытаньняў аб міру з Савецкай Расеяй, аб устанаўлэньню межаў, а так сама грашовымі, мытнымі, культурнымі, сацыяльнымі і санітарнымі пытаньнямі.

Перэгаворы памеж Літвой і Савецкай Расеяй па пытаньню аб акупацыі Вільні Савецкімі вайскамі яшчэ да гэтага часу не давялі ні да якіх станоўчых рэзультатоў. Просьба Літоўскага Ўраду, зьвернутая да Савецкага Ўраду аб тым, каб савецкае войска не займала Вільню, была адсунута з указаньням на стратэгічную патрэбнасьць. У самой Вільні памеж чырвонымі войскамі і створанай там літоўскай камэндантурай усталявалася адносная згода.

Літоўска-польскай дэмаркацыйнай ліньні ў гэтым часе не істнуе. Польскае агентства друку ў Рызе лічыць патрэбным паведаміць, што прызнаньне Літвы дэ-факто ня мела ніякай сувязі з здарэньнямі на фронце. Польшча быццам заўсёды прапанавала Літве такую альтэрнатыву: чы поўная незалэжнасьць Літвы ў яе этнаграфічных мяжох, чы фэдэрацыя з Польшчай. У чэрвені г.г. быццам станоўчэ выясьнілася, што Літоўскі Устаноўчы Сойм не надта йдзе ў бок думкі фэдэрацыі з Польшчай, таму Польшча прызнала дэ-факто Літву незалежным гаспадарствам, але яе прэтэнсыі на Вільню і Гародню, як перш, так і цяпер адкланяе. Адносіны польскаго ураду да Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі агэнтствамі друку ў Рызе фармуліруюцца гэтак: Польскі Ўрад ня мог і ня можэ рабіць ніякіх уступак кучцэ эмігрантоў, мянуючных сябе „беларускім урадам“, бо яго не прызнае, як не прызнае яго і ўвесь беларускі народ. Польшча прызнае „Менскую Беларускую Раду“ і ў згодзе з ей фармуе польска-беларускае войска, ваюючае з боку Польшчы.

Польска-бальшэвіцкі фронт праходзе праз Новы-Двор, Кузніцу, Вянцаны, па заходняму берэгу р. Шары, па рацэ Ясольдзе, праз Рафалоўку і паўдзенна-заходняе Дубны па заходняму берагу р. Збруч.

Разгром Польшчы чырвонай арміяй пабудзіў Англію зьвярнуцца да Савецкага Ўраду з прапановай хуткага заключэньня перамірыя і уступленьня ў мірныя перэгаворы памеж Польшчай і Савецкай Расеяй. Адказ Чычэрына аспарывае права хаўрусьнікаў на ўмешацельства ў рускія справы і заяўляе жаданьня весьці перэгаворы толькі прост з Польшчай. Катастрафічнасьць ваеннага станавішча Польшчы яшчэ павялічываецца палітычнай разрухай ў глыбокім тылу. У прычыннай сувязі з смутным ваенна-палітычным становішчэм знайходзіцца „адозва да рускіх людзей“, распублікаваная ў польскіх газэтах і падпісаная Савінкавым, Мерэжкоўскім, Філасофавым, Родзічавым і інш. з прызывам да рускіх біцца разам з палякамі проці бальшэвікоў. Ў сувязі з гэтым прызывам паявіліся ў друку весткі аб тым, што рускія і палякі старанна працуюць над стварэньем рускай арміі на тэрыторыі Польшчы.

На паўднева-заходнім фронце румынскіх войскаў, баронючых заходні бераг Днестру і Бэсарабіі ваеннае станавішчэ некалькі змянілася у змыслу прыбліжэньня рэальнай угрозы леваму флангу румынскай арміі быць абойдзяным чырвонай арміяй, рыхтуючай да паходу на Чэрнавіцы. Савецкая Расея запрапанавала Румыніі пачаць мірныя перэгаворы і абмяніць праз Данію сваіх ваенна-палонных.

На паўднёвым фронце на Украіне—нацыянальная украінская армія пад камандай атамана Паўленкі згуртавалася у раёні Магілёў - Падольскі—Адэса і бьецца з чырвонай арміяй. Армія Паўленко ўвайшла таксама ў сувязь з групамі паўстанцаў, апэрыруючых у тылу непрыяцеля. Аднэй групай паўстанцаў занята м. Балта. Вялікія паўстаньня ўспыхнулі у раёнах Умань—Звенігародка, мястэчка Зьвягель і ў Жытоміру. Глаўны атаман Украінскай Нацыянальнай арміі—Петлюра будзе абяўлен главой Украінскай Народнай Рэспублікі, а ваеннае верхоўнае камандаваньне прыйме Алешковіч-Паўленка.

Украінскіе нацыянальныя кругі ў Парыжу, ў сувязку з працай канфэрэнцыі ў Спа, праяўляюць ажыўлёную чыннасьць. Першым прыехаў ў Спа парыскі „пасол“ Петлюры, тварэц і ўдахнавіцель апошняй польска-украінскай авантуры гр. Тышкевіч. З другога боку, Украінскі Нацыянальны Камітэт ў Парыжу, дэлегіраваў ў Спа свайго Старшыню Маркатуна. Ў тым выпадку, калі канфэрэнцыя займецца рускімі справамі і парушыць, ў сувязі з ваенным становішчэм Польшчы, украінскае пытаньне, Маркатун выступіць з пратэстам проціў узурпацыі Петлюрай і петлюроўцамі права гаварыць ады ймя украінскага народу.

У Крыму на фронці арміі ген. Врангеля настаў рэшучы мамэнт з прычыны прапановы, зробленай Англіяй Савецкаму Ўраду і ген. Врангелю заключыць перамірье. Англія прапануе адвясьці армію Врангеля за Перакопскі перашэек. Разшыфровываючы гэту прапанову, павінна прысьці да выніку, што Крымскай арміі запрапанована застацца бяз спажыўнасьці, бяз вугальля і засесьці, як быццам пад арэшт, чэкаючы сваей учасьці ў надта цяжкіх варунках.

Апошнія весткі з фронту арміі ген. Врангеля і Маскоўскія радіо малююць баявую абстанову на Крымскім фронце ў большай яснасьці. Ліньня фронту праходзе праз Херсон, Нікаполь, Александраўск, Маріуполь. У рэзультаці баёў апошняго часу ген. Врангель аўладзеў рэзэрвнымі базамі чырвоных, местамі Херсонам і Александраўскам. Прадвіжэньне ген. Врангеля за Александроўск цікава яшчэ тым, што адразу за ім пачынаецца арэна чыннасьці арміі Махно, перайшоўшай да актыўных чынаў проці бальшэвікоў.

Ваеннае палажэньне на Дальнім Ўсходзе бяз перамен.

Палітычна немалаважным фактам зьяўлаецца абъяўленьне Владівастоцкім Земскім Ўрадам, з згоды Японьні, Рэспублікі Дальняго Ўсходу. Тэрыторыя Новай Рэспублікі цягніцца больш. як на 5.000 верст.

Х. Ш.

◆◆◆◆◆◆

## Весткі Генэральн. Штабу.

31. 7. 1920. Наша войска моцна трымаецца на размяжовываючай ліньні (гл. весткі Гэнэр. Штабу ад 22. 7.). Затрымана некολькі груп рускіх, патаемна перайшоўшых праз размежную ліньню ў наш бок і хацеўшых сілком зрабіць рэквізыцыю. З затрыманымі будзе паступлена з ўсей строгасьцю законаў ваенага часу.

Перахоплена радзіо-тэлеграма аб ўзяцьці рускімі Беластоку і крэпасьці Асаўца. Іх вывядоуцы паказаліся пад Аўгустовым.

Палякі выйшлі з раіону Сувалак і хутка адступаюць на поўдзень. У Сувалках пачаліся безпарадкі, грозячыя анархіяй. Па просьбе мейсцовых жыхароў наша войска ўчора заняла Сувалкі.

Ген.-Лейт. Катхэ.

◆◆◆◆◆◆

## ТЭЛЕГРАМЫ:

КОЎНА, 24. 7. (Эльта). Міністэр Замежных Спраў Польшчы князь Сапега паведаміў предстаўнікоў прэсы, што як быццам польскі ўрад нікому не даў права заняць Вільню.

КОЎНА, 24. 7. (Эльта). Латышскі Ўрад выдаў прыказ да сваіх вайсковых улад аб звальненьні з войску літвіноў, родам з акаліцы Палангену.

КОЎНА, 29. (Элта). 29 ліпеня галоўнакамандуючы польскіх войск радзіо-тэлеграмай паведамляе бальшевіцкага галоўнакамандуючага, што прэдстаўнікі польскай арміі 30 ліпеня а 10 гадзіне будуць на шасе Мядзьведзішкі—Ляховічы—Барановічы, дзе маюць спаткацца з прэдстаўнікамі бальшевіцкай арміі ў мэці распачаць апрацаваньне варункаў перамірья.

КОЎНА, 28. 7. (Эльта). Дасюль яшчэ не адстаронены перашкоды да узвароту нашых уцікачоў. Хоць з Расеяй і падпісаны ўклад у справе іх узвароту і Расея абавязалася ўзварачываць што тыдзень па 1000 уцікачоў, ўсёткі дагэтуль ня высланы ні водзін транспарт; таксама часова асталася закрытай граніца з Расеяй.

КОЎНА, 28. 7. (Эльта). Фінлянскій Ўрад назначыў сваім прэдстаўнікам ў Літве магістра філёзофіі п. Сільвандэра.

РЫГА, 31. 7 (Эльта). Гурток жыдоў-эмігрантаў выехаў з Лібавы ў Палестыну.

КОЎНА. 3. 8. (Эльта). На канфэрэнцыю Гаспадарстваў Балтыцкага Пабярэжжа ў Рыгу сёньня выехала Літоўская Дэлегацыя ў складзе: Старшыні дэлегацыі д-ра Шаўліса і члену-сэкрэтара Устаноўчага Сойму п. Наткевіча. Другі член дэлегацыі д-р Заўніс-предстаўнік Літоўскага Гаспадарства ў Рызе. Пры гэтым выехалі патрэбныя экспэрты ад рожных міністэрстваў.

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спрау. Коуна, Вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕСА, КОЎНА.